№7(103)
Красавік 2002

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

## Затрымалі сяброў ГА ПЦ "Вясна"

13 красавіка па дарозе ў г.Касьцюковічы (Магілёўская вобласьць) былі затрыманыя сябры Праваабарончага цэнтру "Вясна". Старшыня ГА ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі і сябра "Вясны" Сяргей Залеўскі накіроўваліся ў Касьцюковічы, каб наведаць там мясцовых актывістаў ПЦ "Вясна". Машыну спынілі міліцыянты, якія правяраюць, каб з чарнобыльскай зоны не вывозіліся рэчы. У машыне супрацоўнікі міліцыі знайшлі праваабарончыя бюлетэні "Права на волю".

Распавядае Алесь Бяляцкі: "Нас спынілі на пад'езьдзе да Касьцюковіцкага раёну. Намесьнік начальніка Касьцюковіцкага РУУС, падсадзіў да нас у машыну аднаго міліцыянта, і мы паехалі ў РУУС. З дому выклікалі начальніка РУУС (гэта была субота і дастаткова позна). Начальнік праверыў нашыя дакументы, пагартаў кнігу "Выборы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – 2001 год" і праз паўгадзіны нас адпусьцілі. Чаму ж спынілі? Аказваецца, у Касьцюковіцкі раён 26 красавіка прыязджае Лукашэнка. І адпаведна мясцовае міліцэйскае начальства баялася, што мы рыхтуем да гэтага нейкі непрыемны сюрпрыз. Але бюлетэні не канфіскавалі, бо колькасьць іх не перавышала 300 асобнікаў".

## "Так жыць нельга!"

2 красавіка, позна ўвечары ў Барысаве пры расклейцы налепак з інфармацыяй пра марш пратэсту "Так жыць нельга", правядзеньне якога мяркуецца 19 красавіка, быў затрыманы актывіст моладзевага руху "Зубр" Алесь Моніч. Ён быў дастаўлены ў пастарунак, дзе на яго складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні.



Фота IREX/ProMedia

## Журналісты — не злачынцы!

### Больш за паўгода працягваецца перасьлед журналістаў гарадзенскай незалежнай газеты "Пагоня"

Перасьлед журналістаў незалежнай гарадзенскай газеты "Пагоня" пачаўся яшчэ 5 верасьня мінулага году. Тады, за чатыры дні да прэзідэнцкіх выбараў, абласная пракуратура ў друкарні канфіскавала наклад чарговага нумару газеты за тое, што нібыта ў некаторых артыкулах мелася крытыка на адрас кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі. Рэдакцыя зьмясьціла матэрыялы нумару, які ня выйшаў, на сваёй старонцы ў Інтэрнэце. Абласная пракуратура вынесла "Пагоні" афіцыйнае папярэджаньне, бо палічыла, што гэтыя матэрыялы ўтрымліваюць паклёп на прэзідэнта Беларусі, і запатрабавала закрыцьця газеты праз суд. 12 лістапада 2001 году судзьдзя Вышэйшага гаспадарчага суда РБ Валерый Жандараў прыняў рашэньне закрыць "Пагоню".




14 лютага галоўнаму рэдактару "Пагоні" Міколу Маркевічу і журналісту Паўлу Мажэйку былі прад'яўленыя абвінавачаньні па арт. 367 ч.2 КК РБ "Распаўсюджваньне паклёпу на прэзідэнта РБ у творы, які публічна дэманструецца ў сродку масавай інфармацыі". 12 сакавіка крымінальная справа трапіла ў суд. Першае паседжаньне суда было прызначанае на 9 красавіка...

Па ўсёй Беларусі прайшлі акцыі ў падтрымку журналістаў "Пагоні". Буйнейшыя з іх адбыліся на пачатку красавіка ў Гародні.



1 красавіка каля будынку аблвыканкаму адбыўся несанкцыянаваны пікет у абарону Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Удзельнікі пікету трымалі ў руках плакаты з лозунгамі: "Мажэйка, Маркевіч – Хто наступны?", "Свабода = Свабода слова", "Разам за ПАГОНЮ!". На прапановы міліцыянтаў зьвярнуць плакаты і разысьціся пікетоўцы

(Працяг на стар. 6)

# Выстаялі супраць бульдозераў і сьпецназу

***11 красавіка споўнілася 200 дзён беспрэцэдэнтнай кругласутачнай варты моладзі ў Курапатах. Абаронцы працягваюць акцыю, а ўлады зноў спрабуюць засыпаць крыжы пры дарозе***

Акцыя ў абарону нацыянальнага некропалю пачалася ўвечары 24 верасьня 2001 году, калі група маладафронтаўцаў з крыжамі стала ва ўрочышчы Курапаты на шляху бульдозераў, якія руйнавалі месцы масавых пахаваньняў. У тую ж ноч яны паставілі ў Курапатах намёт і вырашылі адстойваць урочышча столькі часу, колькі спатрэбіцца. Праз некалькі дзён да маладафронтаўцаў далучыліся прадстаўнікі Беларускай партыі свабоды, а затым іншых моладзевых арганізацыяў. 30 кастрычніка маладафронтаўцы ўсталявалі ў Курапатах цёплы вайсковы намёт дзеля зімоўкі.

8-9 лістапада мінулага году ўлады спрабавалі зламаць моладзевую абарону Курапатаў – з бульдозерамі, сьпецназам... Але моладзь выстаяла і перамагла ў змаганьні за нацыянальную памяць.



Абарона Курапатаў 8-9 лістапада 2001 году.

Фота IREX/ProMedia

У выніку пракуратура РБ упершыню за 15 гадоў прызнала, што ў Курапатах пахаваныя ахвяры палітычных рэпрэсіяў 1937-1940-х гг. Затым пры ўдзеле МЗС РБ і амерыканскай амбасады быў узноўлены разбураны вандаламі мемарыяльны знак, усталяваны прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, потым будаўнікі, лесьнікі і міліцыянты пачалі раіцца з моладзьдзю па ўсіх сваіх дзеяньнях у Курапатах, а Маю Кляшторную прызначылі навуковым кіраўніком будаўніцтва кальцавой дарогі ў раёне ўрочышча. Нарэшце аднавіла будаўніцтва храму ў раёне Курапатаў Праваслаўная Царква, а дзяржаўныя структуры пачалі абмяркоўваць праект мемарыялу.

Сёньня маладым абаронцам даводзіцца змагацца з новымі небясьпекамі. Апошнім часам зь дзіўнай рэгулярнасьцю да курапацкага намёту пачала наведвацца мясцовая шпана нападпітку ды скінхэды, адбылося некалькі боек. У выніку Антось Шкурынскі, Васіль Парфянкоў, Алесь І. і яшчэ адзін абаронца Курапатаў атрымалі траўмы: у Антося разьбіты твар, Васілю зламалі руку, а Алесь увогуле ляжыць у 9-ай бальніцы г.Мінску з апёкамі: хуліганы павалілі яго на распаленую печку. Апроч таго, моладзі не хапае ежы і сьвечак: сталага фінансаваньня лагеру папросту няма. Але абаронцы трымаюцца і зьбіраюцца працягваць варту памяці далей.

Апроч таго, 10 красавіка яшчэ некалькі самазвалаў пяску абрынуліся на курапацкія крыжы. Зноў у Курапатах напружаньне, зноў там міліцыя...

**Паводле паведамленьня Прэс-службы Маладога Фронту.**

# Беларускі Экзархат фінансуецца дзяржавай...

У Праваабарончы цэнтр "Вясна" трапіў вельмі цікавы дакумент – "Аб дзяржаўнай фінансавай падтрымцы асобных грамадзкіх аб'яднаньняў" накіраваны кіраўнікам Адміністрацыі прэзідэнта РБ Уралам Латыпавым – Лукашэнку.

"У 2001 годзе дзяржава аказала фінансавую дапамогу 22 грамадзкім арганізацыям, – гаворыцца ў дакуменце, – у першую групу ўваходзяць арганізацыі, якія выконваюць важную, шмат у чым незаменную функцыю па аказаньні дапамогі найбольш абяздоленым грамадзянам. (...) члены гэтых аб'яднаньняў, як пераконвае практыка, — *пасьлядоўныя прыхільнікі палітыкі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, актыўна падтрымалі Вас 9 верасьня 2001 году.*

Другую групу складаюць арганізацыі, якія выконваюць важную духоўную, патрыятычную і адукацыйна-выхаваўчую функцыю ў грамадстве: *Беларускі Экзархат*, Рэспубліканскі Савет ветэранаў вайны і працы, Беларускі саюз жанчын, фонд "Мы - дзецям!", Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Беларускае таварыства па сувязях з суайчыньнікамі за мяжой "Радзіма", *БПСМ*, а таксама шэраг установаў, якія ўваходзяць у сістэму Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай.

Дзяржаўная падтрымка гэтым аб'яднаньням неабходная дзеля рашэньня канкрэтных сацыяльна-выхаваўчых задачаў: *Беларускаму Экзархату на выплату стыпендыяў і аплату працы выкладчыкаў Духоўнай семінарыі і акадэміі (305 стыпендыятаў і 58 штатных адзінак выкладчыкаў). (...) Прапануем прафінансаваць у поўным аб'ёме Беларускі Экзархат.* (...)

У цяперашні час Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі дзяржава фінансуе бягучыя выдаткі ЦК БПСМ і заработную плату супрацоўнікаў (усяго па рэспубліцы – 1186 штатных адзінак). Рашэньнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 1997 году на іх распаўсюджваюцца ўмовы аплаты працы органаў дзяржаўнага кіраваньня. Штатных супрацоўнікаў Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі прапануецца перавесьці на ўмовы аплаты працы супрацоўнікаў бюджэтных арганізацыяў. Тэрытарыяльным арганізацыям БПСМ скарацiць колькасьць з улікам аб'ёму вылучаных сродкаў, якi прадугледжваецца захаваць на ўзроўні мінулага году. (...)

Зыходзячы з вышэйсказанага, лічым мэтазгодным ажыцьцявіць фінансаваньне грамадзкіх аб'яднаньняў у 2002 годзе ў памеры 3962,5 млрд. руб.

*Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.Латыпаў.*
*Дакладная запіска 12.02 2002 № 10/124-1042, 124-1045*"

***Каментар ГА ПЦ "Вясна":***

Беларускі патрыятычны саюз моладзі зьяўляецца грамадзкай моладзевай арганізацыяй, як, напрыклад, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў. Толькі БПСМ фінасуецца дзяржавай, а ЗБС перасьледуецца ўладамі. Што тычыцца Беларускага Экзархату, дык яго фінансаваньне дзяржавай – прамое парушэньне беларускага заканадаўства, паколькі, у адпаведнасьці з арт.16 Канстытуцыі РБ, усе рэлігіі і веравызнаньні роўныя перад законам. Згодна з арт. 7 Закону РБ "Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыяў": "Дзяржава не ўскладае на рэлігійныя арганізацыі выкананьне якіх-небудзь дзяржаўных функцыяў, ня ўмешваецца ў дзейнасьць рэлігійных арганізацыяў, калі яна не супярэчыць заканадаўству. Дзяржава не фінансуе дзейнасьць рэлігійных арганізацыяў. Рэлігійныя арганізацыі не выконваюць дзяржаўных функцыяў".

Фінансаваньне дзяржавай Беларускага Экзархату адбываецца на фоне дыскрымінацыйных і абразьлівых выказваньняў у электронных і друкаваных дзяржаўных СМІ ў адрас іншых традыцыйных для Беларусі веравызнаньняў. Усё гэта не спрыяе талерантнасьці і можа справакаваць канфлікт на рэлігійнай глебе.

# "Спыніць з-за скančэньня тэрмінаў даўніны..."

## Беларуская "сістэма правасудзьдзя" не знайшла вінаватых у трагедыі на Нямізе

25 сакавіка суд Цэнтральнага раёну г.Мінску спыніў крымінальную справу адносна выконваючага абавязкі начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Галоўнага ўпраўленьня ўнутраных справаў Мінгарвыканкаму Віктара Русака і начальніка аддзелу па масавых мерапрыемствах міліцыі грамадзкай бясьпекі Галоўнага ўпраўленьня ўнутраных справаў Мінгарвыканкаму Міхаіла Канд-рацінa. Афіцэраў міліцыі абвінавачвалі ў службовай нядбайнасьці, у выніку якой на станцыі метро "Няміга" 30 траўня 1999 году загінула 53 чалавекі, а больш за 200 было паранена.Судзьдзя Пятро Кіркоўскі спыніў справу з прычыны скančэньня тэрміну даўнасьці.




Скульптар Міхаіл Інькоў, бацька 15 гадовай Машы Іньковай, якая загінула 30 траўня 1999 году ў падземным пераходзе станцыі метро Няміга гаворыць: "25 сакавіка нікога з пацярпелых у судзе не было. Я думаю, што гэта нахабства, рабіць усё так – ціха. Што тут думаць! Адназначна – прававое бязьмежжа. Пацярпелых не папярэдзілі, ціха сабраліся, ціха вынесьлі рашэньне.

Наконт вінаватых пытаньне таксама засталося адкрытым. Міліцыя, вядома, мае долю віны, але асноўная віна ляжыць на арганізатарах мерапрыемства, што адбылося ў той дзень – на фірме "Магна".

Але пра фірму "Магна" цяпер ніхто нават ня згадвае. Калі ў апошні раз у пракуратуры зьбіралі ўсіх пацярпелых (бацькоў загінуўшых і тых, што былі на Нямізе і засталіся жывымі, але паранены-мі), то мерапрыемства, якое прывяло да трагедыі называлі "піўное сьвята фірмы "Аліварыя", а на самой справе гэта быў "супермарафон ад Магны" – рэкламная акцыя. Пра гэта ніхто ня кажа. Атрымліваецца, што карпарацыя "Магна" выходзіць з-пад удару цалкам.

Я цяпер раблю мемарыяльную дошку для падземнага пераходу на Нямізе. Мы змагаліся за тое, каб на Нямізе быў храм, але ў Мінгарвыканкаме прыйшлі да высновы, што трэба ўсталяваць мемарыяльную дошку з прозьвішчамі загінулых. Казалі, часова. Але потым высьветлілася, што дошку мы ўсталюем, а царквы ня будзе. Таму цяпер я раблю гэтую дошку ў выглядзе царкоўнага *алтара. Такі своеасаблівы* міні-алтар".

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

## Пастанова

### *аб спыненьні крымінальнай справы ў адносінах да супрацоўнікаў міліцыі, якія абвінавачваліся ў службовай нядбайнасьці, што прывяла да гібелі 53 чалавек у пераходзе станцыі метро "Няміга" ў Мінску ў траўні 1999 году.*

*25 сакавіка 2002 году*
*г.Мінск*

Судзьдзя Цэнтральнага раёну г.Мінску Кіркоўскі П.А., разгледзеўшы крымінальную справу, якая паступіла ў суд, у адносінах да

Русака Віктара Леанідавіча..., Кандрацінa Міхаіла Анатольевіча,

па абвінавачаньні ў зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага арт. 168 КК Рэспублікі Беларусь 1960 г.,

УСТАНАВІЎ:

Органамі крымінальнага вышуку Русаку В.Л. і Кандраціну М.А. прад'яўленае абвінавачаньне ў тым, што яны, зьяўляючыся службовымі асобамі: Русак В.Л., выконваючы абавязкі начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Галоўнага ўпраўленьня ўнутраных справаў Мігарвыканкаму і Кандрацін М.А., займаючы пасаду начальніка аддзелу па масавых мерапрыемствах міліцыі грамадзкай бясьпекі Галоўнага ўпраўленьня ўнутраных справаў Мінгарвыканкаму пры падрыхтоўцы і правядзеньні 30 траўня 1999 году ў г. Мінску на адкрытай пляцоўцы каля Палацу спорту масавага мерапрыемства "Піўное сьвята "Аліварыя" неналежным чынам выканалі ўскладзеныя на іх службовыя абавязкі па прычыне нядбайных адносінаў да іх выкананьня, што пацягнула па неасьцярожнасьці гібель людзей, прычыненьне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзянаў і дзяржаўным інтарэсам.

Дзеяньні абвінавачваемых кваліфікаваныя па арт. 168 КК Рэспублікі Беларусь 1960 году як нядбайнасьць, санкцыя якой прадугледжвае адказнасьць у выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін да трох гадоў.

Вывучыўшы матэрыялы справы, лічу, што вытворчасьць па справе падлягае спыненьню па наступных падставах.

Згодна з ч.2 арт. 9 КК Рэспублікі Беларусь1999 году, закон, які ўстанаўлівае злачынныя дзеяньні, зьмякчае пакараньне ці іншым чынам паляшае становішча асобы, якая зьдзейсьніла злачынства, мае адваротную сілу, ш.зн. распаўсюджваецца на асобаў, якія зьдзейсьнілі адпаведнае дзеяньне да ўступленьня такога закону ў сілу.

Санкцыя ч.1 арт. 428 КК Рэспублікі Беларусь 1999 году, якая прадугледжвае адказнасьць за службовую нядбайнасьць, ш.зн. за дзеяньне, аналагічнае таму, якое інкрымінуецца Русаку В.Л. і Кандраціну М.А., максімальнай мерай пакараньня прадугледжвае пазбаўленьне волі тэрмінам да двух гадоў, ш.зн. зьяўляецца больш мяккай. Адпаведна, гэтыя дзеяньні ў сілу ч.2 арт. 9 КК 1999 году павінны быць кваліфікаваныя па ч.1 арт. 428 КК Рэспублікі Беларусь 1999 г.

Згодна з арт. 12 КК Рэспублікі Беларусь 1999 году злачынствы, якое прадугледжанае ч.1 арт. 428 КК Рэспублікі Беларусь, адносіцца да злачынстваў, якія не прадстаўляюць вялікай грамадзкай небясьпекі.

Згодна ж з ч.1 п.1 арт. 83 КК Рэспублікі Беларусь 1999 году пры зьдзяйсьненьні злачынства, якое не прадстаўляе вялікай грамадзкай небясьпекі асоба, вызваляецца ад крымінальнай адказнасьці, калі з дня зьдзяйсьненьня злачынства прайшло два гады.

Згодна з прад'яўленым абвінавачаньнем, якое інкрымінуецца абвінавачваемым, дзеяньне мела месца 30 траўня 1999 году. Адпаведна, на момант паступленьня справы ў суд скончыліся тэрміны прыцягненьня абвінавачваемых да крымінальнай адказнасьці.

На падставе п.3 ч.1 і ч.3 арт. 29 КПК Рэспублікі Беларусь па ўзбуджанай справе вытворчасьць падляае спыненьню з-за скančэньня тэрміну даўніны са зоды абвінавачваемых.

У прадстаўленых суду заявах абвінавачваемыя Русак В.Л., Кандрацін М.А. вінаватымі сябе па сутнасьці прад'яўленага абвінавачаньня не прызналі, аднак не супраць спыненьня справы з-за скančэньня тэрмінаў даўніны.

На падставе выкладзенага, кіруючыся арт. 276 КПК Рэспублікі Беларусь, судзьдзя,—

ПАСТАНАВІЎ:

Крымінальную справу ў адносінах да Русака Віктара Леанідавіча і Кандрацінa Міхаіла Анатольевіча па абвінавачаньню па ч.1 арт. 428 КК Рэспублікі Беларусь вытворчасьцю спыніць з-за скančэньня тэрмінаў даўніны.

Пастанова абскарджаньню не падляае, але можа быць апратэставаная пракурорам у Мінскі гарадзкі суд на працягу 10 дзён праз суд Цэнтральнага раёну г. Мінску.

**Судзьдзя**
**П.А.Кіркоўскі.**

# Апошняе слова Міхася Кукабакі

*Абаронная прамова беларускага праваабаронцы М. Кукабакі:*

...Грамадзянін пракурор выказаў тут цікавае сьцьверджаньне: «Думай, але ня дзейнічай». Вось у зале сядзіць грамадзянін Новікаў, ён сталяр. Як ён можа выявіць сябе, давесьці сваю кваліфікацыю? Відавочна, што ён павінен што-небудзь зрабіць: стол альбо крэсла. Як жа можна паказаць, што я думаю, выказаць сваю думку? Відавочна, што дакладна гэтаксама — дзеяньнем. Я сьцьвярджаю, што сьведчаньні сьведкаў сфабрыкаваныя. Вось Барысаў Алег Іванавіч. Так, ёсьць у яго слабасьць — ён лячыўся ў ЛПП (Лячэбна-працоўны прафілакторый — месца лячэньня ад алкагалізму прымусовым шляхам). На гэтую слабасьць і націснуў КДБ. Кажуць, Барысаў добраахвотна аддаў матэрыялы, якія ў яго былі. Чаму ж ён, калі чытаў «Архіпелаг ГУЛаг», — ён казаў пра тое тут, — гэтую кнігу не аддаў у КДБ, а панёс бандэроль, нават не распакаваны, ня ведаючы, што там ляжыць? Мой аналіз: супрацоўнікі КДБ націснулі на яго: не дасі сьведчаньняў — зноў схаваем цябе ў ЛПП. І ён даў. Зразумела, я не асуджаю Барысава, мабыць, у кожнага ёсьць свая мяжа трываласьці. Вось Сяргей Новікаў. Гэта — вельмі добры чалавек, я мог бы лічыць яго сваім братам. Ён, калі я выйшаў у лістападзе 1977 году з псіхлячэбніцы і апынуўся бяз месца ў інтэрнаце, бяз рэчаў, даў мне сваё паліто!.. Я мяркую, як жа магла адбыцца так званая добраахвотная выдача? А гэтаксама, як і ў Барысава — ня было яе. Памятаю, як я прыйшоў да яго, а ён сядзіць, абхапіў галаву рукамі:

— Вой, Міхась, усё згінула, усё!

— Ды што згінула? Узялі, ці што?

— Так. І я ня мог нічога зрабіць...

— Ну, вось што, кажу, вось табе папера, сядай — апісвай, як усё было.

— Вой, Міхась, я не магу. Гэта ж значыцца, што трэба ісьці ў турму.

Так, я не лічу сябе вінаватым. І катэгарычна супраць прад'яўленых мне абвінавачаньняў. Мае перакананьні, мае артыкулы — вынік жыцьцёвага досьведу і глыбокіх разважаньняў аб тым, што адбываецца ў краіне. Яшчэ ў 1970 годзе, я быў рэпрэсаваны за свае перакананьні і правёў у зьняволеньні 7 гадоў. За адмову ад супрацоўніцтва з КДБ я быў прызнаны псіхічна хворым і адпраўлены ў сьпецпсіхлячэбніцу. Так, гэта было ва Уладзіміры, галоўны сьледчы Уладзімірскага КДБ, маёр Яўсееў прапанаваў мне сьведчыць пра крымінальныя сустрэчы з першым сакратаром амбасады ФРГ Мюлерам. У абмен ён абяцаў мне свабоду. Але гэта значыла схлусіць. Я падумаў: навошта, атрымаю свае 3 гады, якнебудзь пераб'юся, але ня страчу душы, не заплямлю сумленьня. Я адмовіўся. Тады маёр Яўсееў і скіраваў мяне на экспертызу ў інстытут Сербскага. Дзяржава аказалася спрытнейшай! Мне вызначылі стан поўнай адсутнасьці памяці, суд быў закрыты...




***Суд адбываўся 20 чэрвеня 1979 году ў г. Бабруйску, у памяшканьні Бабруйскага гарадзкога народнага суда. Старшынёй на працэсе быў намесьнік старшыні Магілёўскага аблсуда М. Іваноў, народным засядальнікам Паўленка, прозьвішча другога народнага засядальніка невядомае. Пракурор — Аляксеенка.***

Разуменьне сваіх учынкаў — гэта і ёсьць перакананьне. Мае перакананьні паўсталі ў цяжкасьцях і пакутах. І вы самі разумееце, што чалавек, які ўсё сваё сьвядомае жыцьцё сядзіць у турме за перакананьні, ня можа быць злачынцам.

Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што суд нада мною супярэчыць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Хачу зьвярнуць вашую ўвагу і на тое, што яшчэ 16 красавіка 1977 году я з цяжкасьцю вырашыў — выехаць з СССР. Я даўно прыйшоў да перакананьня, што камунізм савецкага ўзору зьяўляецца сістэмаю змушэньня і ўсеагульнага разбурэньня. Усе камуністычныя лідэры, пачынаючы ад Уладзіміра Ульянава, вядуць палітыку ўмяшальніцтва ў справы іншых краінаў з мэтаю ўсталяваць там дыктатуру, падобную да нашай. Маскоўскія кіраўнікі могуць і не стрымацца перад пачаткам новае вайны. Пра сталую падрыхтоўку да вайны кажа мілітарызацыя краіны, выхаваньне насельніцтва ў ваенна-палітычным духу, усеагульная вайсковая павіннасьць, розныя дзіцячыя вайсковыя гульні і да т. п. Пры тым, улада намагаецца зьнішчыць найменшую апазіцыю да іх планаў унутры краіны.

Што датычыцца падпісанай нядаўна дамовы з ЗША, то я лічу, што савецкая дзяржава ніколі ня будзе прытрымлівацца гэтай дамовы. Кантроль за абмежаваньнем узбраеньняў магчымы толькі шляхам спраўджаньня другім бокам на месцы. Гэта значыць — нашыя сьпецыялісты паедуць у Амерыку, а амерыканцы — да нас: калі ласка, глядзіце. Якая ж можа быць дамова, калі

---

Міхась КУКАБАКА (Mikhail Kukobaka) 3.12.1936 г. Бабруйск, праваабаронца, палітычны вязень, вязень сумленьня Amnesty International.

**Сірата. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Сярэдняя адукацыя (вячэрняя школа для моладзі). Служыў у войску, працаваў механізатарам на будоўлі: бульдозершчык, кранаўшчык, экскаватаршчык, апаратчык на хімічным прадпрыемстве. У 1968 г. у Дарніцкім ваенкамаце г. Кіеву абвясьціў, што супраць інтэрвенцыі ў Чэхаславаччыну. Ня маючы магчымасьці працаваць у Кіеве, пераехаў на Уладзіміршчыну ў Расію. Спробы кантактаў з заходнімі журналістамі прывялі да арышту 14.04.1970 г. Пісаў «Открытое письмо английскому писателю Айвору Монтегю», якое было адказам на непрыстойную заўвагу таго ў савецкай прэсе на адрас Анатоля Кузьняцова (аўтар «Бабьего Яра»). Адмовіўся супрацоўнічаць са сьледзтвам і кампраметаваць заходніх дыпламатаў, з якімі нават не сустракаўся. Уладзімірскі аблсуд (пасьля экспертызы Інстытуту імя Сербскага) вырашыў зьмясьціць М. Кукабаку (як «представляющего общественную опасность») на “принудительное лечение в учреждение специального типа МВД СССР”. Так называлася псіхтурма. М. Кукабака быў вызвалены толькі ў 1976 г. Вярнуўся ў Бабруйск, увосень 1976 і 1977-га прымусова зьмяшчаўся ў абласны псіхіятрычны шпіталь. Арыштаваны ў 1978 г., асуджаны ў 1979 г. Бабруйскім гарсудом на 3 гады пазбаўленьня волі за «антисоветскую агитацию и пропаганду». Наступныя тры гады атрымаў у калоніі ў 1982 г., і там жа рашэньнем Віцебскага аблсуда ў 1985 г. – 6 гадоў і чатыры гады высылкі за «систематическое распространение сведений, позорящих советский государственный и общественный строй».**

**Быў прызнаны Amnesty International вязьнем сумленьня, быў апошнім палітычным зьняволеным за «антисоветчину». Не прасіў аб памілаваньні, бо не лічыў сябе вінаватым.**

**У 1989 г. незалежная псіхіятрычная экспертыза прызнала М . Кукабаку цалкам псіхічна здаровым. Па звароце да намстаршыні Прэзідыуму ВС БССР Станіслава Шушкевіча ў 1989 г., Прэзідыум Вярхоўнага Суда Беларусі адмяніў 10.12.1990 папярэднія судовыя рашэньні «из-за отсутствия состава преступления».**

*Паводле матэрыялаў Amnesty International і Маскоўскай хельсінскай групы.*

трымаць камень за пазухай? Вось, скажам, некага абвінавачваюць, што ў яго крадзеныя рэчы ў чамадане; што гэты чалавек зробіць, калі ў яго нічога няма? Ён адчыніць чамадан і скажа: глядзіце! А наш урад менавіта гэтага і не хоча, ніяк ня хоча паказаць свой чамадан.

Я за разрадку, за абмежаваньне ўзбраеньняў, усіх відаў узброенасьці з абодвух бакоў. Мае бацькі загінулі ў мінулую вайну. Мне, як нікому іншаму патрэбная разрадка.

У выніку разрыву з камуністычнай ідэалогіяй я прыйшоў да рашэньня пакінуць СССР. Я лічу, што нават маё жыхарства ў гэтай краіне — амаральнае. Бо, што б я ні рабіў, я зьяўляюся саўдзельнікам яе палітыкі, яе мілітарызацыі, бо кожны рубель, які я зараблю сваёй працаю, ідзе на мілітарызацыю, супраць якой я выступаю.

У нашай краіне ўсё хаваецца ад народу. Нават інфармацыя пра камуністычныя партыі за мяжой, калі яны ў чымсьці нязгодныя з КПСС. Вось (вымае газету), японскія камуністы патрабуюць, каб СССР вярнуў Японіі захопленыя падчас вайны астравы. А дзе надрукаваны ў нас гэты ліст? Вось Саньцьяга Карыльо, сакратар Гішпанскае Камуністычнае Партыі — ужо 20 гадоў ён кіруе партыяй, напісаў кнігу «Еўракамунізм і дзяржава». А што мы ведаем пра яе, акрамя таго, што яна «рэвізіянісцкая»? І Палітбюро Французкай кампартыі, ува многім разыходзіцца з КПСС, у прыватнасьці — член Палітбюро Жан Эленштэйн, які напісаў кнігу «Камуністычная партыя» (дакладны беларускі пераклад: «Французкая Камуністычная партыя»). Самыя лепшыя людзі ў СССР пазбаўляюцца грамадзянства і высылаюцца з краіны. Вось прыклады апошніх гадоў: выслалі Аляксандра Салжаніцына... Пазбавілі грамадзянства музыканта Растраповіча і сьпявачку Галіну Вішнеўскую... Пазбаўленыя грамадзянства генерал Пётра Грыгоранка, біёлаг Жарэс Мядзьведзеў, фізік В. Чалідзэ, цяпер, здаецца, пісьменьнік і філосаф прафесар Зіноўеў. (...) Вось вы судзіце мяне за тое, што я сьцьвярджаў: у СССР «инакомыслящих» трымаюць за перакананьні ў псіхіятрычнай лячэбніцы. А ў СССР сядзелі ў псіхбальніцах такія вядомыя людзі, як Леанід Плюшч, навукоўца-матэматык. І што вы скажаце: гэта паклёп? Ды ня можа гэта быць паклёпам, бо за вызваленьне Плюшча з псіхшпіталю выступаў нават Генеральны сакратар кампартыі Францыі Жорж Маршэ! (...)

А зьняволеньні «инакомыслящих» у турмы і лагеры? Зьняволены Аляксандар Гінзбург, распараджальнік Фонду дапамогі палітычным зьняволеным. Ёсьць такі Фонд, заснаваны Аляксандрам Салжаніцыным, і гэта вельмі цудоўна, бо ламае планы ўлады і КДБ тым, што пра зьняволеных клапоцяцца. Я асабіста атрымліваў дапамогу з гэтага Фонду, за што яму ўдзячны. Аляксандр Гінзбург быў асуджаны за міласэрнасьць, і вынік гэтага быў вырашаны раней. Зьняволеньне ў вязьніцу за міласэрнасьць — гэтым савецкія ўлады нават фашыстаў перасягнулі. Дарэчы, у фашыстаў сустракаліся апраўдальныя прысуды; прыгадаем, што Дзімітраў, напрыклад, быў апраўданы ў судзе. У нас жа апраўдальных прысудаў на палітычных працэсах не бывае ніколі. (...)

Вы думаеце, што ўсё гэта — недзе далёка. Добра. Вось Зайцаў Вячаслаў Кандрацьевіч з Мінску — ня тую лекцыю прачытаў... Вось Бузіньнікаў з гораду Сьветлагорску Гомельскай вобласьці. Так, я быў з ім знаёмы, езьдзіў да яго. Яго судзілі толькі за тое, што ён слухаў радыё і зьбіраў на гарадзкім сьметніку старыя кнігі — такія, што цяпер нідзе не знайсьці — Зіноўева, там, альбо Троцкага прамовы. (...)

Мае перакананьні абсалютна супрацьлеглыя камуністычнай ідэалогіі. Гэтыя перакананьні не належаць выпраўленьню працай. Як гэта магчыма — выпраўляць працай перакананьні? Я ўжо адбыў 7 гадоў за перакананьні, ці ж гэтага не дастаткова? Адмовіўся ад грамадзянства, а прымушальнае накідваньне грамадзянства зьяўляецца бясприкладным садызмам. Калі чалавек саромеецца свайго грамадзянства, трымаць яго ў краіне — амаральна. Я не хачу мяняць сваіх перакананьняў, я не магу іх зьмяняць. А калі яны не падыходзяць вам, адпраўце мяне з краіны і ўсе справы!

*(Працяг у наступным нумары)*

## РЕЧЬ ПРОКУРОРА

За последние 30 лет моей работы это первое обвинение за такое преступление. Не могу не дать ему политической оценки. Антисоветская пропаганда за рубежом ведется с первых дней образования советской власти: каждый новый успех в строительстве коммунизма, в борьбе за мир порождает новые формы борьбы с целью затормозить наше движение вперед. Ныне ряд западных радиостанций круглосуточно вещает на русском языке в эфир. Их цель – дезинформировать население, посеять недоверие к политике КПСС и государства, подорвать наш социалистический строй. Главное место в этой пропаганде занимает клевета на наши демократические свободы. Эта кампания представляет собой открытое идеологическое давление на нас капиталистических государств. Эта система тщательно продумана органами западной разведки. Она посягает на все сферы жизни нашего государства. Основная цель этой кампании – подстрекательство граждан социалистических стран к антиобщественным выступлениям. С помощью идеологических диверсий строятся планы внедрения в сознание советских людей буржуазных концепций. Используются фальсификация, прямая клевета, распространение ложных слухов. Раздаются, к сожалению, и внутри страны причитания т.н. инакомыслящих о том, что их якобы помещают в психиатрические больницы, что преследуют верующих за их веру, что в СССР нельзя выступать с критикой. Абсурдность этих утверждений видна каждому. Советские люди осуждают взгляды, идущие вразрез с коммунистической идеологией.

Под влиянием из-за рубежа определенная часть молодежи увлекается западной музыкой, отдельные лица становятся на путь совершения политически вредных действий, а иногда и преступлений. На такой путь встал и Кукобака. В своих выступлениях он со злобой и ненавистью клевещет на наш строй. Даже в выражении его лица видна ненависть, вот, он тут неоднократно повторял, к КГБ, к нашим органам защиты государства.

Нет нужды останавливаться на тех выпадах, которые допускал здесь Кукобака, остановлюсь на предъявленном ему обвинении. У нас не преследуют за инакомыслие *(сорвал голос, хрипит)*. Нет, мысли хоть 100 лет, но не действуй! А он действовал. И эти действия изложены в материалах следствия. Подсудимый говорил, что они подтасованы. Нет, не было допущено никаких упущений и нарушения прав! Материалами следствия и суда установлено, что Кукобака с июля 1977 по октябрь 1978 г. клеветал на советский государственный и общественный строй в устной форме. Кроме того, он подготовил и передал на Запад статьи «Международная разрядка и права человека – неделимы» и «Украденная родина». В этих статьях возводится злобная клевета на наш строй, обе статьи были использованы для зарубежной антисоветской пропаганды. И последний пункт обвинения – передача Никитиной т.н. «Открытого письма министру здравоохранения Петровскому» – о том, что в нашей стране якобы люди преследуются за убеждения и помещаются в психиатрические больницы. Вот 4 пункта обвинения. Нашли ли они подтверждение в судебном следствии? Я считаю, что вина подсудимого по делу полностью доказана. Сам он не признал своей вины категорически и на протяжении следствия, и здесь. Но из его объяснений явствует, что это клевета, а он ее считает нормой. Эти действия ненормальны, и правильно говорили выступавшие здесь, что такой человек должен быть психически больным. И действительно, у него какие-то остаточные явления есть. Видимо, его излечили, хотя врачи не уверены, что полностью. Это явствует и из его выступлений. Он в своей платформе выдвинул больше, чем ему вменяется в вину. Он чуть ли не за 10 лет требовал привлечь его к ответственности, а ведь это может вызвать более тяжкую статью. Поэтому этот приговор должен стать ему предупреждением. Показания свидетелей полностью подтверждают антисоветскую деятельность Кукобаки. Об этом же говорят вещественные доказательства: заключение радиокомитета, пленки, статьи.

Кукобака не сделал выводов, не раскаялся в содеянном. Но он должен стать на путь исправления. Я считаю, что, хотя законом предусмотрены и другие меры наказания по этой статье — исправительно-трудовые работы, штраф, будет наиболее эффективно определить ему мерой наказания лишение свободы. Я прошу для Кукобáки 3 года исправительно-трудовой колонии общего режима.

**Прокурор Алексеенко.**

# Журналісты – не злачынцы!

(Пачатак на стар.1)

не рэагавалі. Праз дваццаць хвілінаў шасьцёра ўдзельнікаў пікету – ***Дзьмітры Антаневіч, Дзьмітры Дулько, Стас Пачобут, Павел Мутны, Алесь Дзянісаў, Ільля Пячынін*** – былі затрыманыя міліцыяй. Арганізатарам несанкцыянаванага пікету ў падтрымку журналістаў выступіла незарэгістраваная Канфедэрацыя дзеючых суполак "Разам!".

5 красавіка адбылася чарговая акцыя пратэсту гарадзенцаў супраць крымінальнага перасьледу журналістаў «Пагоні». Арганізатары пікетаваньня неаднаразова зьвярталіся ў гарвыканкам, каб атрымаць адпаведны дазвол, аднак гарадзкія ўлады не далі магчымасьці грамадзянам рэалізаваць іх канстытуцыйныя правы. Пікеты прайшлі з 11 да 13.30 гадзінаў у людных месцах гораду: каля будынку аблвыканкаму і на плошчы Савецкай. Удзельнікі акцыі трымалі ў руках транспаранты: "Рукі прэч ад Маркевіча і Мажэйкі", "Быў бы журналіст – камера будзе", "Я таксама пішу праўду пра прэзідэнта. Я наступны?".

Падчас пікетаў раздаваліся ўлёткі, у якіх была інфармацыя пра тое, што суд над Маркевічам і Мажэйкам пачнецца 9 красавіка ў11 гадзінаў у судзе Ленінскага раёну гораду Гародня. Улётка заканчвалася словамі: "Не дапусьцім, каб журналістам пакалечылі жыцьцё!!!".

У час калі праводзіліся пікеты, увесь цэнтр гораду быў запоўнены супрацоўнікамі міліцыі і людзьмі ў цывільным, якія актыўна адсочвалі перамяшчэньні кожнай групы пікетоўшчыкаў. Першы пікет, што адбыўся каля аблвыканкаму, чакаў узмоцнены нарад міліцыі, якая відавочна мела інфармацыю аб маючай адбыцца акцыі.

Падчас пікетаў міліцыянты арыштавалі 14 чалавек. Аднаго праз нейкі час адпусьцілі, а на астатніх 13 былі складзеныя пратаколы. Сярод затрыманых:

*Анджэй Пісальнік* (газета "День"),

*Ірына Чарняўка* ("Беларускі час"),

*Вітаўт Руднік* (рэдактар бюлетэню "Трэці сэктар"),

*Андрэй Мялешка* ("Наша Ніва"),

*Андрэй Пачобут* ("Glos znad Niemna"),

*Алена Сіневіч* (Радыё Рацыя ў Беластоку),

*Анджэй Кусяльчук* (былы рэдактар газеты "Glos znad Niemna"),

*Юлія Дарашкевіч* ("Пагоня"),

*Вольга Арцёменка* ("Биржа информации"),

*Аляксандр Дварэцкаў* (сябра ГА БАЖ),

*Алеся Сідлярэвіч* ("Пагоня"),

*Зьміцер Ягораў* (BARC-news).

*Стас Пачобут* ("Навінкі").

У гэты ж дзень судзьдзя па адміністратыўных справах Дзьмітры Дземчанка разгледзеў адміністратыўныя справы. Прысуды ён закончыў чытаць пасьля закрыцьця суда – у 18.35.



Павел МАЖЭЙКА і Мікола МАРКЕВІЧ.

***Анджэй Пісальнік*** атрымаў 10 сутак арышту, ***Стас Пачобут*** – 10 сутак арышту. ***Андрэй Мялешка*** – 8 сутак арышту, ***Аляксандр Дварэцкаў*** – 4 сутак. Па 3 сутак атрымалі ***Вітаўт Руднік*** і ***Зьміцер Ягораў***. ***Ірына Чарняўка*** аштрафаваная на 30 мінімальных заробкаў, ***Алена Сіневіч*** – на 20 «мінімалак». ***Вольга Арцёменка*** і ***Андрэй Пачобут*** былі папярэджаныя. Суды над астатнімі ўдзельнікамі пікетаў перанесеныя. Стас Пачобут распачаў галадоўку пратэсту.

9 красавіка каля Ленінскага раённага суда г.Гародня сабралася шмат людзей – у асноўным журналісты, у тым ліку і замежныя. У судовай зале зьявіліся галоўны рэдактар газеты «Пагоня» Мікола Маркевіч і журналіст Павел Мажэйка. Яны былі ў майках з надпісамі «Я – журналіст, а не злачынца».

Судовая зала разьлічаная на 80 месцаў. Прысутнічала прынамсі ўдвая больш людзей. Судовае паседжаньне доўга не пачыналася. Урэшце рэшт зьявілася сакратарка і абвясьціла, што суд адкладваецца, паколькі захварэў судзьдзя. Гэта азначае, што цяпер павінны прызначыць новага судзьдзю, якому спатрэбіцца пэўны час, каб азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, потым ён прызначыць дату пачатку працэсу. Гэта можа цягнуцца да канца месяца.

З суда прысутныя накіраваліся да Ленінскага РУУС. Адтуль павінны былі выпусьціць Алеся Дварэцкава, які адбыў ужо свае 4 сутак арышту за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце ў падтрымку журналістаў «Пагоні». Каля пастарунку сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. І таму міліцыянты ва ўнутраным двары прымусам пасадзілі А.Дварэцкава ў машыну і адвезлі дахаты. Ён толькі здолеў памахаць рукой людзям, якія прыйшлі яго сустракаць. У памяшканьні гарадзкой Рады БНФ адбылася прэс-канферэнцыя.

Дарэчы, у суседняй Польшчы журналістаў «Пагоні» афіцыйна падтрымалі канцылярыя прэзідэнта РП А.Квасьнеўскага, Нобелеўскі лаўрэат у галіне літаратуры Чэслаў Мілаш, галоўныя рэдактары ўплывовых польскіх выданьняў: Адам Міхнік – «Gazeta Wyborcza», Мацей Лукасевіч – «Rzeczpospolita», Павел Фонфара – «Życie». У найбуйнейшым польскім выданьні «Gazeta Wyborcza» зьявілася адмысловая рубрыка, прысьвечаная разьвіцьцю справаў вакол «Пагоні».

У падтрымку М.Маркевіча і П.Мажэйкі 9 красавіка адбыўся журналісцкі пікет у польскім Беластоку. Яго ўдзельнікі прынялі заяву да генеральнага консула Беларусі ў гэтым горадзе.

11 красавіка, на сёмы дзень галаданьня ў камеры ізалятару часовага ўтрыманьня (ІЧУ) Ленінскага РАУС г. Гародня карэспандэнта газеты "Навінкі" Стаса Пачобута, з ім дазволілі сустрэцца галоўнаму рэдактару «Пагоні» Міколу Маркевічу, калі ён сказаў, што намераны угаварыць Стаса спыніць галадоўку.

У камеру Маркевіча не пусьцілі, Стаса вывелі да яго ў асобны пакой.

– Шэсьць сутак галаданьня, несумненна, наклалі свой адбітак, – распавёў потым Маркевіч. – Зямлісты колер твару, цёмныя цені вакол вачэй. Голас ціхі, але цьвёрды. Ён мне сказаў, што ня спыніць галаданьне, таму што супраць гэтага беззаконьня трэба пратэставаць усімі магчымымі спосабамі...

15 красавіка Стас Пачобут і Анджэй Пісальнік вышлі на волю .

Змаганьне за "Пагоню" і свабоду яе журналістаў працягваецца.

**Паводле матэрыялаў газеты "Наша Свабода".**

## Затрыманая здымачная група тэлекампаніі НТВ

**2 красавіка каля будынку калоніі, што на вул. Кальварыйскай у Мінску, міліцыя затрымала здымачную групу расійскай тэлекампаніі НТВ. Журналісты тэлекампаніі дамовіліся аб інтэрв'ю з жонкай былога рэктара Гомельскага медінстытуту прафесара Юрыя Бандажэўскага, які асуджаны да васьмі гадоў зьняволеньня нібыта за хабарніцтва, і цяпер адбывае свой тэрмін у калоніі ў Мінску.**

**Галіна Бандажэўская прыехала ў Мінск на спатканьне з мужам. Пасьля сустрэчы карэспандэнт НТВ Павел Селін запрасіў жанчыну да размовы перад камерай. Здымкі праводзіліся метраў за 50 ад турэмнага муру, і аб'ектыў камеры быў накіраваны ў адваротны ад яго бок. Але гэта не ўратавала расійскіх тэлежурналістаў ад канфлікту з міліцыяй. Чалавек, які прадставіўся намесьнікам начальніка калоніі па рэжыме па прозьвішчы Лось, забраў дакументы ў карэспандэнта НТВ Паўла Селіна, аператара Канстанціна Марозава і асістэнта Зьмітра Давыдзенкі.**

**Праверка дакументаў заняла амаль гадзіну. Потым журналістаў папрасілі напісаць пісьмовыя тлумачэньні і адпусьцілі.**

# Спыніць практыку забароны масавых мерапрыемстваў

## Заява Беларускага Хельсінкскага камітэту і Праваабарончага цэнтру «Вясна» адносна забароны ўладамі мірных акцыяў беларускіх грамадзянаў і перасьледу ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі ў Мінску і Гародні

"24 сакавіка ў Мінску і Гародні ўладамі былі забароненыя і разагнаныя мірныя сьвяточныя дэманстрацыі, арганізаваныя грамадзкасьцю краіны з нагоды чарговых угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Больш за 100 чалавек былі затрыманыя, некаторыя грамадзяне зьбітыя прадстаўнікамі Міністэрства ўнутраных справаў.






Суды на падставе сьведчаньняў супрацоўнікаў міліцыі прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасьці 40 чалавек. Сямёра з іх атрымалі адміністратыўныя арышты тэрмінам ад 10 да 15 сутак, 9 чалавек былі пакараныя штрафамі ад 20 да 150 мінімальных заробкаў. Ніводзін з прыцягнутых да адміністратыўнай адказнасьці за ўдзел у мірнай акцыі грамадзянаў ня быў апраўданы судом.

Забарона правядзеньня мірных шэсьцяў, дэманстрацыяў, пікетаў і перасьлед іх удзельнікаў парушае канстытуцыйнае права грамадзянаў на свабоду сходаў, мітынгаў і дэманстрацыяў, міжнародныя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь у галіне абароны правоў чалавека. Дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі пры разгоне мірных масавых акцыяў носяць нематывавана жорсткі характар.

Мы лічым пакараных людзей пацярпелымі за свае погляды і перакананьні.

Мы заклікаем улады краіны спыніць практыку забароны масавых мерапрыемстваў і перасьлед іх удзельнікаў, а таксама прывесьці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасьць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Міжнароднаму пакту пра грамадзянскія і палітычныя правы і іншым актам у галіне правоў чалавека".

*ДАДАТАК*

**Сьпіс асуджаных за ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі ў Мінску і Горадні**

1. ***Сіўчык Вячаслаў*** – 15 сутак адміністратыўнага арышту;
2. ***Севярынец Павел*** – 15 сутак адміністратыўнага арышту;
3. ***Мальчык Сяргей*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
4. ***Саранчукоў Вадзім*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
5. ***Дашкевіч Зьміцер*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
6. ***Кавешнікаў Віктар*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
7. ***Дранчук Цімафей*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
8. ***Лемяноўскі Мікола*** – штраф 150 мінімальных заробкаў;
9. ***Ачапоўскі Лявон*** – штраф 150 мінімальных заробкаў;
10. ***Нех Святлана*** – штраф 50 мінімальных заробкаў;
11. ***Сазонаў Віктар*** – штраф 20 мінімальных заробкаў;
12. ***Смольскі Аляксей*** – штраф 20 мін. заробкаў;
13. ***Таруліс Зьміцер*** – штраф 20 мін. заробкаў;
14. ***Герасімаў Валеры*** – штраф 20 мін. заробкаў;
15. ***Садоўскі Лявон*** – штраф 20 мін. заробкаў;
16. ***Бандарэнка Зміцер*** – штраф 20 мін. заробкаў;
17. ***Русаў Пётр*** – штраф 20 мін. заробкаў;
18. ***Рамашка Раман*** – папярэджаньне;
19. ***Патрэба Міхась*** – папярэджаньне;
20. ***Лебядзеў Максім*** – папярэджаньне;
21. ***Шэвяленка Аляксандр*** – папярэджаньне;
22. ***Трыфанаў Сяргей*** – папярэджаньне;;
23. ***Ляховіч Андрэй*** – папярэджаньне;
24. ***Папкоў Кірыла*** – папярэджаньне;
25. ***Пальчэўскі Юрась*** – папярэджаньне;
26. **Зайкоўскі Эдвард** – папярэджаньне;
27. ***Лавіцкі Мікола*** – папярэджаньне;
28. ***Таўстыка Андрэй*** – папярэджаньне;
29. ***Бязьдзенежны Сяргей*** — папярэджаньне;
30. ***Ігнатовіч Уладзіслаў*** – папярэджаньне;
31. ***Гумін Андрэй*** – папярэджаньне;
32. ***Шэршэнь Ірына*** – папярэджаньне;
33. ***Рашэтнікава Алена*** – папярэджаньне;
34. ***Барысаў Сяргей*** – папярэджаньне;
35. ***Ігнатовіч Мікола*** – папярэджаньне;
36. ***Пярцоўскі Аркадзь*** – папярэджаньне;
37. ***Платонаў*** – папярэджаньне;
38. ***Ахрэмчык Аксана*** – папярэджаньне;
39. ***Сіўчык Ганна*** – папярэджанне;
40. ***Карпенка Зьміцер*** – суд яшчэ не адбыўся.

# Параілі запісацца ў шэрагі БПСМ...

У Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуўся непаўнагадовы ***Алег Корбан***, які быў затрыманы падчас акцыі 24 сакавіка ў Мінску. Ён паведаміў наступнае:

"24 сакавіка 2002 я прыняў удзел у сьвяткаваньні Дня Волі. Каля станцыі метро "Плошча Перамогі" амапаўцы пачалі хапаць усіх прысутных. Мяне схапілі адным з першых. Закінулі ў аўтобус, дзе амапавец пачаў біць мяне па галаве дубінкай. Нас даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёну г.Мінску, дзе склалі адпаведныя пратаколы (па арт 167-1 ч.1 КаАП РБ), пасьля мяне як непаўнагадовага адпусьцілі дамоў.

Праз два тыдні я быў выкліканы ў адміністрацыю Партызанскага раёну г.Мінску на камісію па справах непаўнагадовых. На камісіі прысутнічала наша класная і мой бацька. Сярод членаў камісіі быў наш былы ўчастковы, спадар Новікаў, як ўвесь час нагадваў мне пра мае мінулыя затрыманьні за ўлёткі і надпісы на асфальце. Новікаў сказаў, што мне "светят исправительные работы сроком на один месяц". Мяне паставілі на ўлік інсьпекцыі па справах непаўнагадовых. Запалохвалі майго бацьку вялікімі штрафамі, арыштамі і адміністратыўнымі працамі. Мне прысудзілі штраф — 5 мінімальных заробкаў за ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі і за тое, што я крыкнуў слова "Незалежнасьць". Доўга думалі, што гэтае слова азначае. Класнага кіраўніка папярэдзілі, каб праводзіла са мной пасьля занятказ размовы па паводзінах грамадзянаў у нашай дзяржаве. Параілі запісацца ў шэрагі БПСМ, хадзіць на прыбіраньне тэрыторыі. На разьвітаньне Новікаў мне сказаў, каб я чакаў ад яго выкліку на Стаханаўскую, 14 — ў РУУС Партызанскага раёну".

# Павольнае выміраньне

## Умовы жыцьця ў беларускіх вёсках блізкія да экстрэмальных

Аб выніковасьці беларускай эканомікі мы мяркуем не па прэзідэнцкіх пераможных рэляцыях, не па чынавенскіх зводках і дыяграмах, а па уласных кашальках. Кашалькі пустыя. Даўно і безнадзейна. Эканоміка не працуе на наш дабрабыт. А паколькі асноўным складнікам беларускай эканомікі зьяўляецца сельская гаспадарка, дык сьцьвярджэньне пра яе поўную беспаможнасьць амаль не патрабуе доказу. Дзеля гэтага дастаткова зайсьці ў любую прадуктовую краму. Чалавек – ёсьць тое, што ён есьць. Беларус есьць расійскую каўбасу, якой завалены ўсе крамныя паліцы Мінску, — аднosна танную і ня дужа якасную. Мясныя вырабы айчыннай вытворчасьці, коштам ледзь ня ў дзесяць даляраў за кілаграм, беларусу не па кішэні. Цэны на беларускае эрзац-малако, у якім больш вады, чым тлушчу, растуць штомесяц. Аналагічная сітуацыя з бульбай, капустай, гуркамі, яблыкамі, мёдам... Рынкавы сацыялізм не працуе на чалавека. Бессаромна парушаецца нашае асноўнае права – жыць па-чалавечы.

Дык што ж адбываецца сёньня з беларускай сельскай гаспадаркай? На гэтае пытаньне нашаму карэспандэнту спрабуе адказаць сярэднестатыстычны механізатар сярэднестатыстычнага калгасу Беларусі. Яму крыху за трыццаць, пакуль халасты, патомны вясковец...

***— Колькі ты зарабляеш зараз у сваім калгасе?***

— Трыццаць-сорак тысячаў у месяц (прыблізна 20 даляраў ЗША – *рэд.*).

***— Чаму так мала ?***

— А гэта не да мяне пытаньне. Нават не да нашага калгаснага старшыні, які ледзь не на кожным сходзе клянецца, што ў касе — ні капейкі грошай. Мне яшчэ шанцуе, бо трактарыст — за такі "гонар" хоць штосьці ды плоцяць. А тыя, хто ў паляводзтве (не на тэхніцы), абыходзяцца натуральнай аплатай. Калгас дае крыху зерня, іншым разам камбікорму дзеля гадаваньня ўласнай жывёлы. Забясьпечвае сенажацьцю. Усё, натуральна, пры ўмове, калі выгадаванага бычка не "сьпекулянту" – гэта значыць прадпрымальніку, а дзяржаве здасі. Так што грошы ў калгасе плоцяць ня ўсім і не рэгулярна. Пра суму запазычанасьцяў у выплатах ня ведае ніводзін калгасьнік. Пачнеш шукаць праўды ў супрацоўнікаў бухгалтэрыі — вылічаць апошняе. Ды яшчэ старшыня прыгрозіць: маўляў, дзяржаву трэба карміць, а ня праўду шукаць. Не паслухаесься — без апошняга застанесься.

***— Такіх як ты, аднosна маладых, у калгасе шмат ?***

— Адзінкі. Таму хоць нейкія грошы ды плоцяць. Бяз нас — трактарыстаў і камбайнераў — якая сяўба, якое жніво!

***— Зрэшты, які настрой перад сяўбой ?***

— Ды ніякага. Насеньне для пасяўной ёсьць. Хоць непадрыхтаванае яно яшчэ да сяўбы ў поўным аб'ёме. А вось паліва для тэхнікі, наколькі ведаю, — ані-кроплі. Як будзем глебу рыхтаваць, як сеяць — аднаму Богу вядома. Усе трактары — на прыколе. Не хапае хімічных тукаў: калійных угнаеньняў, даламітавай мукі. Глебы кіслыя, а вапнаваць іх — няма чым. Таму з году ў год пры дваццацібальным ворыўным банітэце атрымліваем з гектару не па 20 цэнтнераў зерневых, а па 5-10. Штогадовых дзяржаўных адлічэньняў толькі і хапае на адноснае ўзнаўленьне жывёлагадоўчага статку ды на падтрыманьне машынна-трактарнага парку ў больш-менш прыстойным стане (запчастак для камбайнаў і трактараў усё роўна не хапае). Але тэхніка гэтая — зболышага яшчэ брэжнеўска-савецкага часу. Як ні рамантуй — на ладан дыхае. А на вёсцы ўсё ўзаемазьвязана. Калі не дае аддачы мехбрыгада, у гэткім жа занядбаным стане і жывёлагадоўля будзе. Таму ня дзіва, што каровы нашыя зараз як козы малака даюць. А падзёж маладняку буйной рагатай жывёлы з-за недакорму такі, што час гэтай праблемай раённаму пракурору займацца. Толькі каго ён да судовай адказнасьці будзе прыцягваць? Ну не Лукашэнку ж !

***— Калі тэхніка на прыколе, чым ты цяпер заняты?***

— А лічы што пашанцавала! Памочнікам кінамеханіка ў клуб уладкаваўся. Праўдамі і няпраўдамі! Мара кожнага калгасьніка — стаць бюджэтнікам з цьвёрдай стаўкай аплаты. Ты ведаеш, колькі нашыя настаўніцы вясковыя зарабляюць у месяц? Ледзь не па 80 даляраў! Няхай і са спазьненьнем іх выплочваюць, але ж грошы гэта вялікія! Вось і я зараз ня вельмі бядую. Хапае, бо сям'і няма. А ў маці старэнькай — пенсія. Колькі ёй там трэба! Дый гародчык я ёй заўжды ўзару, дроў з лесу прывязу.

***— А што ты за свае грошы ў вясковай краме купіць можаш?***

— Хлеб, чай, цукар. Селядзец іншым разам іржавы бывае. Гарэлку, натуральна!

***— П'еш ?***

— А хто на вёсцы ня п'е! Праца цяжкая, вынікаў яе ня бачна. Таму напружаньне штодзённае здымаем віном, гарэлкай, самагонам. Нават жанчыны ўжываюць. З забавак жа на вёсцы — кіно ды тэлевізія, на якой у правінцыі нашай толькі два каналы (адзін з іх — беларускі, нікчэмны ды пусты). Толькі гарэлкай ад стомы ды самоты і лечымся!

***— На вашым мехдвары, відаць, і душавая ёсьць, і пакой псіхалагічнай разгрузкі? Прафкам жа павінен урэшце пра працоўных дбаць!***

— Ты сьмяесься! Калгас ня толькі сам сябе здае дашчэнту, ён і нас яшчэ калечыць бязьлітасна. Ні канцэртаў для калгасьнікаў, ні прэміяў. Нават гарачае харчаваньне ў час сяўбы для механізатараў — раскоша нязбыўная. Гэта ня горад табе, дзе рабочаму штогод — абавязковы водпуск з адпускнымі. А ў вёсцы калгасьнікі ня людзі — рабы!.. Не, душавая на мехдвары ёсьць. Але працуе яна толькі падчас семінараў раённых, дзеля паказухі. Дый да мехдвара таго пяць кіламетраў дабірацца трэба, на цэнтральнай калгаснай сядзібе ён. Мы ж — вёска брыгадная, аддаленая, глуша ў глушы. На рэйсавы аўтобус гады два як забыліся. "Хуткая" меддапамога па нашым бездарожжы (асфальт толькі ў цэнтры) суткі да вёскі дабіраецца! І што ад яе толку: лекаў ніякіх. Медыкам, наколькі ведаю, таксама месяцамі грошай ня плацяць. Так што ня дай Бог у нашых умовах захварэць. Аптэкі няма. Дый грошай за лекі па камерцыйных цэнах ні ў кога няма! Замест лекаў — тая ж гарэлка з віном.

***— Добра, калгас у заняпадзе, фермерствам ня пахне... Дык можа, падсобная гаспадарка неяк дапамагае сёньняшняму калгасьніку выжываць ?***

— Старшыня мясцовага сельсавету ледзь не штодня па вёсцы сноўдае, упрошвае пенсіянераў малако здаваць. Дзівак! Цудоўна ведае, што кароў зараз на сяле трымаць нявыгадна. Камбікармоў на ўсіх не хапае, а хлебам жывёлу свойскую карміць — дык малако тое ці мяса залатымі будуць. А ў калгасе нават бульбы зараз ня ўкрадзеш. Прайшлі тыя шчасьлівыя часы! Статак свойскіх кароў на сёньня ледзь ня ў тры разы зьменшыўся. Купляць тое малако ў горадзе таньней, чым у вёсцы сваё мець.

***— Старшыня калгасу крадзе?***

— Ды не. Няма чаго, кажу, ужо красьці. Дый старшыні ў нас надоўга не затрымліваюцца. Ледзьве ня вахтавым метадам працуюць, пад прымусам. Катэджаў на вякі не будуюць — у калгасным дамку, бедакі, жывуць. Часовыя госьці! Якія з іх гаспадары! Да прыкладу, сёньняшні "кіроўца" калгасны — сям'я ў горадзе, а ён да нас штодня за сотню кіламетраў прыязджае! Сьмех дый годзе! А вось раённы кіраўнік — гэты ўсур'ёз і надоўга. Гэты, натуральна, крадзе. У раённым цэнтры ў яго і дом двухпавярховы, і іншамарка не за адну тысячу "зялёных". Мясцовы правадыр лукашэнкаўскіх ідэяў!

***— Якой сваю будучыню бачыш?***

— Адзінае, што мяне стрымлівае ў калгасе — мая маці старэнькая. Апроч мяне больш нікога няма ў яе. Памрэ — зьеду адсюль імгненна. Калі не атрымаецца ў райцэнтры зачапіцца, завярбуюся на поўнач... Зараблю грошай і сям'ю завяду. Калі не сап'юся. А вёска... Ды гары яна такая гарам!

Гутарыў
**Алесь ГАРКУН.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.
Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org
У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"